БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

24 лютага 1994 г.
Чацвер
№ 22(13738)
Кошт у розніцу 50 рублёў
Выдаецца з 1921 года


У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК






## З НАВАСЕЛЛЕМ, "ЧАБАРОК"!

На гэтым здымку вы бачыце супрацоўнікаў нашай газеты. Менавіта яны сталі першымі пакупнікамі магазіна "Чабарок", які адкрыўся напярэдадні свята мужчын у Доме друку. Газетна-выдавецкае закрытае акцыянернае таварыства "Маладняк" (правапераемнік газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь") і газета "Чырвоная змена" паклапаціліся пра тое, каб журналісты вядучых беларускіх газет і часопісаў змаглі ў любы час набыць сабе самыя разнастайныя харчовыя тавары.

У хуткім часе расчыніць свае дзверы і "Чорны бусел" — кафэ, якое сваім жыццём абавязана таксама "Маладняку" і "Чырвонцы".

А пакуль мы робім пакупкі да Дня нашых абаронцаў і гаворым:"Дзякуй, "Чабарок". З навасельем!"

Фота Сяргея БРУШКО.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Свята розных пакаленняў

*22 лютага ў Цэнтральным Доме афіцэраў Узброеных Сіл салдаты некалькіх пакаленняў разам з прадстаўнікамі грамадскасці беларускай сталіцы сабраліся, каб упершыню афіцыйна і ўрачыста адзначыць Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.*

Пасля ўрачыстага вынасу баявых сцягоў і выканання Дзяржаўнага гімна Беларусі да воінаў і гасцей звярнуўся міністр абароны генерал-палкоўнік Павел Казлоўскі.

З усенародным святам воінаў, ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і Узброеных Сіл, усіх прысутных сардэчна павіншаваў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мячэслаў Грыб, які прыбыў на ўрачыстасць. Абаронцаў Айчыны розных пакаленняў віталі былы партызан, а цяпер старшыня рэспубліканскай ветэранскай арганізацыі Яўген Андрэеў, прадстаўнікі рабочага класа, інтэлігенцыі, моладзі Мінска.

Урачысты вечар завяршыўся вялікім святочным канцэртам лепшых творчых сіл рэспублікі.

БЕЛІНФАРМ.

### Вось дзе мы багатыя

*На першым этапе раззбраення ў Беларусі знішчаны 1353 танкі, бронемашыны, самалёты. Абышлося рэспубліцы гэта ў 2,5 мільёна даляраў. А яшчэ ж трэба знішчыць 3211 адзінак ваеннай тэхнікі.*

І нават пасля гэтага наша рэспубліка будзе самай багатай па гэтай тэхніцы на душу насельніцтва пасля Украіны, Францыі, Турцыі, Польшчы, Расіі, Італіі.

А.СЦЯПАНАЎ.

### У коле беспрацоўя

*Як паведамілі карэспандэнту "ЧЗ" у Мінскім абласным цэнтры занятасці насельніцтва, у мінулым годзе ў райгарцэнтрах вобласці зарэгістравана 27814 беспрацоўных.*

Гэта значыць, што ў коле беспрацоўя апынуліся на 634 чалавекі (або на 2,5 працэнта) больш, чым у аналагічны перыяд мінулага года. А працаўладкавана з іх было ўсяго 10756 чалавек — 38,7 працэнта зарэгістраваных.

Трэба адзначыць, што, акрамя "афіцыйна" незанятых, вялікая колькасць працоўных працавалі час ад часу ў рэжыме "частковага" беспрацоўя. Гэта азначае скарочаны працоўны час ці вымушаны адпачынак без захавання заработнай платы. Паводле экспертных ацэнак, "прыхаванае" беспрацоўе ў вобласці склала на канец года каля 20 працэнтаў ад колькасці насельніцтва ў працаздольным узросце.

### Зноў "моўнае пытанне"?

*Акадэмічная рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выступіла з рашучым пратэстам супраць заблакіравання дэпутацкай большасцю артыкула новай Канстытуцыі краіны аб дзяржаўнасці беларускай мовы.*

Наўмысна, рэалізуючы рашэнні "Кангрэса народа Беларусі", ці падсвядома — гаворыцца ў звароце рады да Вярхоўнага Савета і яго Старшыні — часткай дэпутацкага корпуса чыніцца палітычны гвалт над старажытнейшай еўрапейскай мовай з глыбокай і працяглай дзяржаўнай практыкай, перарванай не па волі яго карэннага носьбіта.

Святлана КУЛІКОВА.

### БЗВ не збіраецца "ў адстаўку"

*Днямі адбылося пасяджэнне Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага згуртавання вайскоўцаў.*

На ім разглядаліся прычыны ліквідацыі БЗВ рашэннем Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь, вырашалася пытанне аб пашырэнні аргкамітэта Патрыятычнага руху "Беларускае згуртаванне вайскоўцаў".

(Ул.інф.).

### "Небяспека – СНІД!"

*Пад такой назвай у сталічным кінатэатры "Партызан" адкрылася выстава плакатаў.*

Літаральна за некалькі месяцаў колькасць ВІЧ-інфіцыраваных узрасла ў краіне да 102 чалавек, 72 выпадкі зарэгістраваны ў Мінску. Як адзначаюць спецыялісты цэнтра, у Беларусі сустракаюцца ўсе віды СНІДу — афрыканскі, амерыканскі, еўрапейскі. Але ва ўсіх іх зыход адзін — лятальны. Каварная інфекцыя "косіць" усіх, не зважаючы на асобы і нацыянальную прыналежнасць.

Менавіта пра гэта прымушае задумацца выстава, у якой удзельнічаюць не толькі прадстаўнікі Саюза мастакоў Беларусі, але і студэнты Акадэміі мастацтваў, Віцебскага педінстытута, навучэнцы Мінскага мастацкага вучылішча.

Выстава чакае наведвальнікаў на працягу ўсяго сакавіка.

Ірына ШУКЕВІЧ.

### Кароткі наш век

*18 900 чалавек — менавіта столькі анкалагічных хворых сёння ў Мінску. З іх прыкладна чацвёртая частка захварэла ў 1993 годзе.*

Сярод мужчын лідзіруе рак лёгкіх — 13 працэнтаў усіх захворванняў, потым ідзе рак страўніка. А ў жанчын пераважае рак малочнай залозы. Ад усіх відаў рака ў 1993 годзе ў Мінску памерла 2590 чалавек, прычым колькасць захворванняў у мужчын прыпадае на 60 гадоў, а ў жанчын — на 55.

Лідзія РЫЖАНКОВА.

### Тэлефон: раскоша ці сродак сувязі?

*Вакол пытання тэлефанізацыі кватэр у сталіцы нашай рэспублікі здаўна існуе сапраўдны ажыятаж. Мінчане дзесяцігоддзямі стаяць у чарзе, а ў той жа час найбольш спрытныя з іх "знаходзяць" магчымасці і пад рознымі прычынамі абыходзяць чаргавікоў: у адных — ільготы і даведкі рознага характару, у іншых — "свае" людзі ў "патрэбных" установах... А праславутая чарга нікольки не змяншаецца.*

Сёння ўстаноўкі запаветных тэлефонных апаратаў чакаюць 100 тысяч жыхароў Мінска. Дарэчы, цяпер тэлефанізацыя кватэры каштуе 80 тысяч рублёў, а ўстановы — 300 тысяч. Праўда, для прыватнікаў ёсць яшчэ адзін канал — праз камерцыйную службу. Але каштуе гэта ўжо намнога больш — 360 тысяч "зайцоў". І, як запэўнілі нас у тэлефонным вузле аднаго з раёнаў сталіцы, жадаючых даволі шмат...

Алесь МЯСНІКОЎ.

### Беспадстаўная трывога

*Пасажыры цягніка "Друя — Віцебск" былі вельмі здзіўлены, калі на станцыі Міёры ў вагонах з'явіліся міліцыянеры з аўтаматамі і пачалі абшукваць некаторых мужчын.*

Напалоханым бабулькам, якія ўзнялі было лямант, і астатнім пасажырам растлумачылі, што ў цягніку шукаюць злачынцаў, якіх... магчыма і не было. Справа ў тым, што ў Міёрскі райаддзел унутраных спраў патэлефанавалі калегі з Браслаўскага РАУС і паведамілі аб тым, што ў Друі два злачынцы, пагражаючы пісталетам, абрабавалі жанчыну і селі на цягнік. Нават прыкметы назвалі. Але, як паведамілі нам з браслаўскай міліцыі, ім пра гэты выпадак нічога не вядома...

Тэлефонны ж званок— гэта, відаць, проста чыясьці забава. Змарнаванымі, праўда, аказаліся час і нервы работнікаў міліцыі і пасажыраў.

Сяргей ВІШНЕЎСКІ.

### Курсы валют на 23 лютага:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 6300 | – | 3640 | – |
| "Бел-бізнесбанк" | 6100 | 6490 | 3500 | 3730 |
| "Прыор" | 6250 | 6400 | 3570 | 3700 |

"ПАС" — палітыка-аналітычная служба

# Сезон кадравых перамен працягваецца

## Пасля перапынку аднавіла сваю работу сесія Вярхоўнага Савета

□ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"

Нядоўга пуставалі крэслы сілавых, як іх цяпер называюць, міністраў рэспублікі. У аўторак дэпутаты хутка вырашылі пытанне з вакансіямі старшыні КДБ і міністра ўнутраных спраў, прагаласаваўшы за прапанаваных спікерам кандыдатаў. Старшынёй Камітэта дзяржбяспекі зацверджаны Генадзь Лавіцкі, а рэспубліканскую міліцыю цяпер будзе ўзначальваць Уладзімір Данько. Абодва кандыдаты з'яўляліся намеснікамі былых міністраў, так што ў іх прызначэнні, бадай што, няма нічога экстраардынарнага. Пасля сціплага абмеркавання галасаванне прайшло без сучка і задзірынкі. Адчуваецца, што ў кадравых пытаннях новы спікер у адрозненне ад старога хутка паразумеўся з парламентам (калі не ўлічваць апазіцыі).

У абстаноўцы поўнай згоды паміж прэзідыумам і залай (чаго ніколі не было пры Шушкевічу, які, як спікер, канфліктаваў з парламенцкай большасцю нават па самых дробязных пытаннях рэгламенту) кадравыя пытанні сапраўды незвычайна хутка вырашаюцца ў Авальнай зале. Апазіцыя, якая не прымала ўдзелу ў галасаванні, вядома, імкнулася пратэставаць, але даволі сціпла: расклад сіл у Вярхоўным Савеце, і раней быўшы не на карысць апазіцыі, апошнім часам моцна прыціснуў хоць якія-небудзь магчымасці парламенцкай меншасці ўплываць на ход абмеркавання, не кажучы ўжо пра галасаванне ці канчатковае рашэнне. І калі раней такія-сякія прадстаўнікі большасці скардзіліся на неаб'ектыўнасць спікера, валодаючага мікрафоннай уладай, дык зараз абстаноўка змянілася.

У той жа дзень дэпутаты аднадушна прагаласавалі за ўнясенне папраўкі ў Канстытуцыю, каб даць магчымасць Старшыні Вярхоўнага Савета мець некалькі намеснікаў. "Сёння дзяржава фактычна не ўпраўляецца, — сказаў Мячэслаў Грыб. — Я не задаволен дзейнасцю камісій, якія займаюцца эканомікай. Мне патрэбен намеснік, чалавек, які б адказваў за пытанні эканомікі". Дэпутаты падтрымалі спікера. Пакуль няясна, хто будзе займацца эканомікай, але адзін намеснік ужо абраны. І эта Іван Бамбіза, за якога тайным электронным галасаваннем выказалася 218 дэпутатаў.

Камісію Вярхоўнага Савета па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю, якая засталася без старшыні пасля выбрання Мячэслава Грыба спікерам парламента, цяпер будзе ўзначальваць Анатоль Новікаў — кандыдатура таксама прапанавана Старшынёй Вярхоўнага Савета. За яго прагаласавалі 232 дэпутаты пры двух супраць і сямі ўстрымаўшыхся.

Відавочна, што новы кіраўнік парламента гатуе сабе каманду. Балазе, ёсць з каго і ёсць усе магчымасці, галоўная з якіх — безумоўная падтрымка дэпутатамі свайго спікера, каб гэтую каманду вакол сябе групаваць. Звычайная палітычная гульня, у якой адзін у полі — не воін. Каманда, мяркуючы па ўсяму, атрымаецца моцная і нават, можна сказаць, баявая. Усе скрозь генералы, а калі не генералы, дык не менш за палкоўніка. Трохі недацягнуў у чыне толькі кандыдат, прапанаваны Прэзідыумам на пасаду старшыні Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека Сяргей Давідовіч, падпалкоўнік міліцыі.

Савет Міністраў папрасіў новых паўнамоцтваў у Вярхоўнага Савета. І хаця Вячаслава Кебіча на пасяджэнні не было, ён захварэў пасля паездкі ў Маскву, дэпутаты ўсё ж абмяркоўвалі гэтае пытанне, згаджаючыся ў асноўным, што паўнамоцтвы трэба даць, толькі высветліць, якія канкрэтна.

Пакуль у Вярхоўным Савеце адбываліся кадравыя ракіроўкі, у аўторак на плошчы каля Дома ўрада збіраліся людзі, якіх паклікалі страйкамы, каб выказаць сваю нязгоду з курсам урада і парламента. Нагадаем, што першы этап запланаванага ўсеагульнага страйка прайшоў 15 лютага і ва ўсеагульны так і не ператварыўся. Вынік 22 лютага атрымаўся прыблізна такім жа. Натоўп людзей гэткай невялікай па маштабах нашага горада колькасці, безумоўна, не мог быць пачуты ў Авальнай зале. Здаецца, ні палымяныя прамовы, ні заклікі ўжо не здольныя вывесці людзей на плошчу. Пакуль працоўным выплачваюць зарплату і яе з цяжкасцю, але хапае на набыццё тавараў першай неабходнасці, распачаць сапраўдны ўсеагульны палітычны страйк наўрад ці каму ўдасца. Гэта выдатна разумеюць і ўрадавыя, і антыўрадавыя колы.

■

### СА СВЯТАМ, АБАРОНЦЫ АЙЧЫНЫ!

Паважаныя ветэраны вайны і Узброеных Сіл, салдаты, сяржанты, прапаршчыкі, афіцэры, генералы, рабочыя і служачыя Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь!

Сардэчна віншую вас з прафесійным святам — Днём абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

Здабыткам нашай арміі сталі выпрацаваныя многімі пакаленнямі воінаў традыцыі вернага служэння народу, адданасці ратнай справе, мужнасці і адвазе.

Беларускі народ за сваю многавяковую гісторыю сумесна з іншымі брацкімі народамі прынёс на алтар Айчыны шматлікія ахвяры ў імя яе незалежнасці і свабоды.

У гэтым годзе наша рэспубліка адзначае 50-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З асаблівай сілай раскрыўся народны характар арміі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Нізкі паклон жывым і вечная слава загінуўшым воінам, партызанам і падпольшчыкам, якія адстаялі свабоду і незалежнасць Радзімы, з гонарам выканалі свой патрыятычны і інтэрнацыянальны доўг.

Захаванне і прымнажэнне баявых традыцый, развіццё і ўмацаванне абараназдольнасці Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь — надзейная гарантыя забеспячэння нацыянальнай бяспекі.

Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь, нягледзячы на вялікія цяжкасці, звязаныя з іх рэфармаваннем і скарачэннем, заклікаsuccessfully надзейна забяспечыць абарону суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці нашай маладой дзяржавы.

Жадаю асабоваму складу Узброеных Сіл поспехаў у баявой падрыхтоўцы, авалоданні сучаснай зброяй і баявой тэхнікай, ва ўдасканаленні палявой і паветранай вывучкі, умацаванні воінскай дысцыпліны і правапарадку.

Жадаю ветэранам вайны, працы і Узброеных Сіл, нашай моладзі, усяму беларускаму народу моцнага здароўя, шчасця, працоўных здзяйсненняў на карысць нашай Айчыны — Рэспублікі Беларусь.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
М.ГРЫБ.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "TV-5" — "Уорлднэт"

### Расізм непераможны?

*У ЗША абнародаваны відэазапіс, на якім адлюстраваны жахлівыя сцэны насілля амерыканскіх паліцэйскіх над 4 амерыканцамі мексіканскага паходжання.*

За перавышэнне сваіх паўнамоцтваў кіраўнік паліцэйскага падраздзялення будзе зняты з займаемай пасады, а ўдзельнікі гэтай расісцкай акцыі паўстануць перад судом.

***

*Сотні белых паўднёваафрыканцаў, прыхільнікаў крайне правых настрояў, выйшлі на вуліцы ПАР і абвясцілі аб "стварэнні асобнай афрыканскай дзяржавы".*

Самыя буйныя маніфестацыі прайшлі ў правінцыі Наталь. У Ньюкасле мясцовы муніцыпалітэт аб'явіў горад "дзяржавай белых". Гэта сімвалічная акцыя падтрымана і іншымі гарадамі.

### Самы культурны цэнтр

*Лісабон стане ў 1994 годзе сапраўдным культурным цэнтрам Еўропы. У сталіцы Партугаліі будуць праведзены ўсе найбольш значныя культурныя мерапрыемствы года.*

Ужо ў наступную суботу ў Лісабонскім калізеўме адбудзецца канцэрт Лонданскага сімфанічнага аркестра.

### Шпіёнскі шлюб

*У ЗША арыштаваны былы супрацоўнік ЦРУ і яго жонка, якія абвінавачваюцца амерыканскімі ўладамі ў перадачы сакрэтнай інфармацыі СССР, а пазней Расіі.*

Паведамляецца, што яны атрымалі ад КДБ каля 3 мільёнаў даляраў. На думку прэзідэнта ЗША Клінтана, гэты выпадак патрабуе сур'ёзнага разгляду.

### Рушдзі: істэрыя працягваецца

*Лідэр аднаго з іранскіх мусульманскіх фарміраванняў, які прызначыў узнагароду за галаву апальнага пісьменніка 3 мільёны швейцарскіх франкаў, заявіў учора, што настаў час расправіцца з Рушдзі канчаткова.*

Нагадаем, што пісьменнік быў асуджаны ў гэтай краіне да смяротнага пакарання 5 гадоў таму.

### Жанчыны–свяшчэннікі?

*Вярхоўны сінод англіканскай царквы зацвердзіў рашэнне аб тым, што жанчына можа быць свяшчэннікам.*

Рашэнне выклікала вялікія спрэчкі з боку прадстаўнікоў кансерватыўных поглядаў. Першае пасвячэнне жанчыны ў духоўны сан адбудзецца 12 сакавіка.

### Закрываюць АЭС

*Французскі ўрад аб'явіў аб закрыцці буйнейшай атамнай электрастанцыі "Суперфенікс".*

У спецыяльным урадавым камюніке з гэтай нагоды гаворыцца, што адкрыццё станцыі можа адбыцца толькі пры "некаторых акалічнасцях", праўда, пры якіх,— не ўдакладняецца. Работа "Суперфенікса" была прыпынена ў 1990 годзе пасля шэрагу надзвычайных здарэнняў.

### Доўгажыхары за кратамі

*Сірыя аб'явіла аб вызваленні з–пад варты трох самых "старых" палітычных вязняў.*

Яны былі асуджаны да доўгатэрміновага турэмнага зняволення за ўдзел у партызанскіх дзеяннях супраць урада гэтай краіны.


(Працяг на 3-й стар.).


ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ


Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С.КІРЫЕНКА, Д.ЛІТВІН, рэдактар П.СІМАНАЎ.

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

## Дзеці вызвалены

*Вызвалены апошнія 5 з 74 пакістанскіх дзяцей, якіх тэрарысты трымалі ў якасці заложнікаў ў афганскім пасольстве ў Ісламабадзе.*

Самі ж тэрарысты забіты ў перастрэлцы пры атрыманні выкупу. Усе дзеці цэлыя і здаровыя. Асобы выкрадальнікаў высвятляюцца.

## Небяспечная традыцыя

*У Алжыры забіты яшчэ адзін чалавек — 52-гадовы грамадзянін Францыі.*

Французскі ўрад параіў сваім падданым у Алжыры ўзмацніць меры асабістай бяспекі, бо забойства французаў і іншых іншаземцаў у гэтай краіне становіцца ўжо небяспечнай традыцыяй.

## Бастуюць "Блакітныя"

*У Вялікабрытаніі прайшлі масавыя выступленні прадстаўнікоў сексуальных меншасцей супраць ушчамлення іх правоў.*

Паводле брытанскіх законаў асобы, якія не дасягнулі 21 года, не маюць права ўступаць у сексуальныя кантакты з асобамі таго ж полу.

## Рэкорд, але не спартыўны

*Каля 500 кандыдатаў маюць намер змагацца за дэпутацкія месцы ў парламенце Італіі на выбарах, якія адбудуцца 27—28 сакавіка.*

Такога мноства партый і палітычных груповак яшчэ не ведалі ніводныя выбары ў Італіі.

## "Кабалістычныя" лічбы на Берлінскім кінафестывалі

*44-ы Берлінскі кінафестываль, які працягваўся 11 дзён, завяршыў сваю работу ў панядзелак.*

На суд журы былі прадстаўлены 22 фільмы.

## Мексіка: ёсць нагода зняць новы серыял

*У панядзелак у Мексіцы пачаліся мірныя перагаворы паміж урадам і індзейскімі паўстанцамі.*

Апошнія патрабуюць паляпшэння палітычнага і сацыяльнага жыцця індзейскага насельніцтва краіны, правядзення сацыяльнай рэформы.

## "Снежныя баі" ў Хельсінкі

*Негатыўна выказалася большасць насельніцтва Фінляндыі наконт намеру ўрада гэтай краіны ўступіць у Еўрапейскае супольніцтва.*

У Хельсінкі адбылася шматтысячная забастоўка. Дэманстранты зрывалі сцягі ЕС і барыкадавалі вуліцы снегам, што на некалькі гадзін паралізавала рух транспарту. Паліцыя была "абстраляна" снежкамі.

## "Дзедаўшчына" па-амерыканску

*У Пальма-дэ-Маёрка пачаўся суд над 18 "зялёнымі берэтамі", якія дэзерціравалі з часці.*

Як заявілі арыштаваныя ўцекачы, асноўнай прычынай былі знявага і невыносныя адносіны з боку старшых чыноў. Адвакат заявіў, што ў выпадку доказу фактаў амаральных адносін да яго падабаронных, з іх будзе знята абвінавачванне, а перад судом паўстануць адказныя за ўчыненае.

## Смерць у цырку

*У іспанскім горадзе Манферада вядзецца судовы разбор наконт смерці дзіцяці ў Рымскім цырку.*

Няшчасны выпадак адбыўся ў канцы мінулага года, калі хлопчыка растаптаў пакінуты без нагляду слон.

## СНІД перадаецца не заўсёды

*Амерыканскія вучоныя, якія праводзілі назіранні за 500 цяжарнымі жанчынамі, хворымі на СНІД, вызначылі, што верагоднасць перадачы вірусу ад маці будучаму дзіцяці можа быць значна зменшана.*

Пагроза перадачы захворвання можа быць зніжана дзякуючы новаму прэпарату AZT.

---

ЮРЫДЫЧНАЯ СЛУЖБА "ЧЗ"



## Трэба звярнуцца ў суд

*"Паважаная рэдакцыя! Я, Александровіч Тамара Іосіфаўна, працавала з 26 лютага 1988 года ў Клецкай сістэме грамадскага харчавання кандытарам. Загадам № 128 ад 30 снежня 1993 года звольнена ў сувязі са скарачэннем штатаў. Аднак на маё месца пераведзена работніца, якая раней працавала кандытарам на хлебазаводзе, і стаж якой складае два гады.*

*За адпрацаваныя шэсць гадоў парушэнняў працоўнай дысцыпліны ў мяне не было. Ці ёсць для майго скарачэння законныя падставы?*

**Т.АЛЕКСАНДРОВІЧ".**

Паважаная Тамара Іосіфаўна! Пытанні, звязаныя з парушэннем працоўных правоў, разглядаюцца ў адпаведнасці з Кодэксам законаў аб працы камісіямі па працоўных спрэчках або народным судом. У Вашым выпадку трэба звярнуцца ў народны суд, які вызначыць правамернасць Вашага звальнення і вырашыць пытанне аб аднаўленні Вас на рабоце.

## Спрэчку вырашыць камісія

*"Мяне перавялі на іншую работу без маёй згоды. Куды мне можна звярнуцца, каб разабрацца ў сітуацыі?*

**ГРЫБОЎСКІ А.І."**

Паважаны А.І.Грыбоўскі, камісія па працоўных спрэчках (калі яна створана) з'яўляецца абавязковым пярвічным органам па разгляду Вашай працоўнай спрэчкі з наймальнікам. Артыкул 215 КЗаП Рэспублікі Беларусь устанаўлівае трохмесячны тэрмін для звяртання ў камісію па працоўных спрэчках з дня, калі работнік даведаўся або павінен быў даведацца аб парушэнні свайго права. Гэты тэрмін не можа быць зменены. Аднак, пры пропуску па ўважлівых прычынах устаноўленых тэрмінаў, яны могуць быць адноўлены. Спрэчка разглядаецца ў прысутнасці работніка, які падаў заяву. Разгляд спрэчкі пры адсутнасці работніка дапускаецца толькі па яго пісьмовай заяве. Камісія па працоўных спрэчках абавязана разгледзець працоўную спрэчку ў дзесяцідзённы тэрмін і вынесці матываванае рашэнне. Копіі рашэння ў трохдзённы тэрмін уручаюцца работніку і наймальніку, яны падлягаюць выкананню наймальнікам не пазней чым у трохдзённы тэрмін пасля дзесяці дзён, прадугледжаных на іх абскарджанне. Рашэнне камісіі па працоўных спрэчках можа быць абскарджана ў судзе.

## Ільготы, але не ўсім

*"Я вучуся на першым курсе інстытута і працую. У студзені здаваў экзамены, аднак водпуск, прадастаўлены для здачы экзаменаў, мне не аплацілі, спасылаючыся на тое, што мяне не накіроўвалі на вучобу. Ці правільна гэта, бо ўвесь час існавалі льготы для тых, хто вучыцца і працуе?*

**У.КЛІМЕНЦЬЕЎ".**

Вы маеце рацыю ў тым, што такія льготы раней былі і прадастаўляліся ўсім. Аднак цяпер, згодна з артыкулам № 199 КЗаП Рэспублікі Беларусь (у рэдакцыі ад 15.12.1992 г.), вызначана кола асоб, якія маюць права на льготы ў сувязі з навучаннем у завочных і вячэрніх вышэйшых і сярэдніх навучальных установах. У адрозненне ад ранейшай рэдакцыі артыкула льготы павінны прадастаўляцца толькі работнікам, якія вучацца па накіраванню (заяўцы) наймальніка або ў адпаведнасці з заключанымі з ім дагаворамі, гэта значыць тых, хто атрымлівае спецыяльнасць, неабходную наймальніку з яго пункту гледжання, а не з пункту гледжання работніка. Калі работнік самастойна паступіў на вучобу ва ўказаную ўстанову, то ён павінен вырашаць звязаныя з гэтым пытанні самастойна (у вольны ад работы час) альбо па дагаворанасці з наймальнікам. У Вашым выпадку дзеянні адміністрацыі не супярэчаць дзеючаму заканадаўству.

## Дамаўляцца трэба з бацькам

*"Я разведзена з мужам. Да нядаўняга часу ён плаціў аліменты на ўтрыманне дачкі. Зараз яна вучыцца ў інстытуце на першым курсе. Аліменты з бацькі перасталі спаганяць, спасылаючыся на тое, што дачэ споўнілася 18 гадоў. Але ж дзяўчына сама не зарабляе. Ці павінен бацька дапамагаць ёй у такой сітуацыі?*

**І.СВЯНЦІЦКАЯ".**

Закон абавязвае бацькоў утрымліваць сваіх непаўналетніх, а таксама непрацаздольных паўналетніх дзяцей, якія маюць патрэбу ў дапамозе.

Уплата аліментаў на карысць асобы, якая дасягнула паўналецця, спыняецца аўтаматычна. Абавязак бацькоў утрымліваць сваіх паўналетніх дзяцей узнікае толькі ў тым выпадку, калі яны адначасова: а) з'яўляюцца непрацаздольнымі; б) маюць патрэбу ў дапамозе.

Калі ў Вас няма ўказаных падстаў, неабходна вырашаць пытанне аб дапамозе дачэ непасрэдна з яе бацькам.

Рубрыку вядзе аддзел пісьмаў і вывучэння грамадскай думкі.

■



**Свята кожны дзень.**

Фота БЕЛІНФАРМ.

МАРАЛЬНЫ КОДЭКС

# Сумніцельная праца для "мілых лэдзі..."

□ Аляксандр МІХАЙЛАЎ

*Не так даўно ў рэкламных выданнях беларускай сталіцы мільгалі аб'явы, падаўцы якіх за ўмераную плату прапаноўвалі мужчынам увесь спектр сексуальных уцех. Затым публікацыю яўнай "парнухі" забаранілі, але, як кажуць, на тое ён і закон, каб яго парушаць. Фірмачы сталі больш хітрымі ў сэнсе падачы інфармацыі.*

Нядаўна ў вочы кінулася аб'ява, расклееная ў вагонах Мінскага метро. Гэты прадукт творчасці рэкламнага аддзела Метрапалітэна заслугоўвае быць працытаваным ад пачатку і да канца: "Мілыя лэдзі! Мы прапануем вам цудоўную магчымасць поўнасцю выкарыстаць свае творчыя сілы і здольнасці на высокааплатнай рабоце ў прыбалтыцы (так у арыгінале —А.М.). Аплата самая высокая ў Еўропе. Тэл. прадстаўніцтва ў Мінску..." І яшчэ прыпіска: "Гэта патрэбна Вам!"

Вось так! Гэта не шэсць з трыццаці шасці і нават не адзін з трох — гэта стопрацэнтная ўдача. Прычым, не мае значэння ні адукацыя, ні месца жыхарства, ні нацыянальнасць, ні партыйнасць, ні судзімасць (калі яна ёсць). Патрабуецца адно: будзьце лэдзі, і вам за гэта фірма адразу ж адваліць добрыя грошы.

Дарэчы, аб прадстаўніцтве якой фірмы ідзе размова і чаму не ўказаны яе адрас? Гэтыя камерсанты такія недаверлівыя, ледзь што — камерцыйная тайна. І, вядома, пра яе захаванне перш за ўсё непакоіліся агенты па рэкламе метро, рыхтуючы аб'яву.

Вернемся, аднак, да нашых бараноў. Як і трэба было чакаць, прадстаўніцтва безыменнай фірмы "кватаравала" не ў фешэнебельным раёне сталіцы, а на "хаце", што лёгка "вылічыла" знаёмая, патэлефанаваўшая па маёй просьбе. Што ж удалося высветліць? Работа — суправаджэнне "кліентаў" на выставах і банкетах ...— па выбару ў любым горадзе Прыбалтыкі. Пацікавіліся ўзростам. І ні слова пра прафесію, веданне замежных моў... Праверка ўмення "прэтэндэнткі на атрыманне работы" павінна была праводзіцца "атэстацыйнай камісіяй" на "хаце", куды і была запрошана мая памочніца. На што яна ласкава згадзілася, але абяцанага, як вядома, тры гады чакаюць...

Усё гэта было б вельмі смешна, калі б не было так сумна. Можна толькі здагадвацца, колькі прадстаўніц цудоўнага полу "клюнула" на гэту прынаду, і колькі іх зараз "працуе" ў Эстоніі, Латвіі і Літве. І дзе гарантыі, што праз некаторы час яны не апынуцца на еўрапейскіх панелях?

А такое адбываецца, і ў гэтым лёгка пераканацца, прачытаўшы ў "Труде" за 20 студзеня гэтага года матэрыял "Старажытнейшая і вечная прафесія". Новая плынь жывога тавару з Усходу паставіла перад паліцыяй заходніх (і не толькі) краін новыя праблемы: дзяўчаты лёгка ідуць на падман. Сустрэць жа шукальніц лёгкай нажывы можна ў цыганскіх табарах паблізу Рыма,— такі лёс рускіх дзяўчат-малалетак, якія паверылі рэкламе "Банка жаночай прыгажосці" ў парыжскім часопісе "Нувель абсерватэр" і потым апублікаванай у адным з маскоўскіх выданняў. Або, напрыклад, у адным з бараў Германіі, дзе, паквапіўшаяся на шасцісотдаляравы авіябілет, санкт-пецярбургская выкладчыца нямецкай мовы мые посуд, а па начах пад прыглядам рускага трэнера па боксу працуе на панелі. Такіх прыкладаў можна прывесці шмат, і ў наш час недахопу ў іх няма. Засмучае не толькі лёс прайшоўшых "праз агонь і ваду" путан, але і тое, што не паспрабаваўшыя "салодкага" жыцця дзяўчаты не жадаюць вучыцца на памылках сваіх папярэдніц. Таму не здзіўлюся, калі праз некаторы час друк раскажа пра новыя жудасныя гісторыі прадстаўніц слабага полу, завербаваных фірмай з Прыбалтыкі.

■




## "Энцыклапедыя" выдае...

**Выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" выпусціла першы том пяцітомнай "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі".**

**Супрацоўнікі выдавецтва плануюць выдаць да канца гэтага квартала яшчэ шмат кніг. Сярод іх "Археалогія і нумізматыка Беларусі", рэпрынтнае ўзнаўленне выдання 1882 г. "Живописная Россия. Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Литовское и Белорусское Полесье", перакладзены на беларускую мову твор М.Доўнар-Запольскага "Гісторыя Беларусі" і другі том "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі".**

## Новыя маркі. Нашы

**Паштавікі зноў парадавалі калекцыянераў. Не паспелі філатэлісты набыць серыю марак з выявамі гістарычных дзеячаў нашай зямлі — Рагвалода, Рагнеды, Сымона Буднага і Кастуся Каліноўскага, як у аддзяленнях сувязі з'явілася новая серыя.**

**Яна носіць назву "Чырвоная кніга Беларусі". На шматколерных паштовых мініяцюрах размешчаны зімародак, лебедзь-шыпун, беркут.**

Мікола БАГАДЗЯЖ.

■

ЭСТЭТЫЧНАЯ СТУДЫЯ

# Спасціжэнне прыгожага

□ Мікола КАПЫЛОВІЧ

*Больш чым тры гады назад у Маладзечна адкрыўся і пачаў працаваць гарадскі Цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў. Аб яго формах і метадах работы нашаму карэспандэнту расказвае дырэктар Таццяна Сцяпанаўна ЧАБРОЎСКАЯ.*

— Створаны наш Цэнтр для таго, каб больш актыўна далучаць школьнікаў да розных відаў і форм эстэтычнага выхавання, для навучання іх у студыях, гуртках, клубах і аматарскіх аб'яднаннях. Базавымі навучальнымі ўстановамі выбраны сярэднія школы №№ 10 і 3. Цэнтр укамплектаваны адукаванымі спецыялістамі, якія аб'ядноўваюць і каардынуюць намаганні дзеячаў мастацтва, літаратуры, навукі, работнікаў культуры і народнай адукацыі, шырокай грамадскасці ў справе эстэтычнага выхавання школьнікаў, задавальнення іх творчых патрэб.

**— Хацелася б пачуць аб структурных падраздзяленнях Цэнтра.**

— Галоўныя з іх — метадычны і арганізацыйны аддзелы, студыі, клубы па інтарэсах, гурткі, аматарскія аб'яднанні. Заняткі з вучнямі Цэнтра вядуцца па праграмах, зацверджаных аддзеламі культуры і народнай адукацыі гарвыканкама. Цэнтр праводзіць паказ творчых работ дзіцячых калектываў, студый, гурткоў, клубаў, найбольш таленавітых выканаўцаў праз выстаўкі, канцэрты, спектаклі, фальклорныя святы, тэматычныя вечары і г.д.

Вось і нядаўна Цэнтр эстэтычнага выхавання ў калядныя дні праводзіў і будзе далей праводзіць конкурсныя праграмы маладых выканаўцаў, спевакоў, кампазітараў "Зорны час", "Маладзечанскі Парнас", "Восеньскі кірмаш".

**— Таццяна Сцяпанаўна, а хто фінансуе Цэнтр?**

— Асноўная крыніца — гэта сродкі дзяржаўнага бюджэту. Дапамагаюць нам сваёй дабрачыннасцю фірмы "Айра", "Дайнова", СП "Дзясіслава", Бізнес-цэнтр. Так, напрыклад, у мінулым годзе "Дайнова" на наш рахунак пералічыла 1 мільён рублёў. Гэта была адчувальная для нас падмога. Спадзяёмся на паступленні грошай ад прадпрыемстваў, устаноў, грамадскіх арганізацый, на перададзеныя матэрыяльныя каштоўнасці ад дзяржаўных, кааператыўных, грамадскіх і прыватных прадпрыемстваў. Нашу скарбонку будуць папаўняць даходы ад рэалізацыі вырабаў, выкананых вучнямі і работнікамі Цэнтра, ад платных мерапрыемстваў і іншых паслуг.

Цэнтру дадзена права ўстанаўліваць сваім работнікам надбаўкі за выкананне навучальных планаў і праграм, захаванне асноўнага саставу навучэнцаў, творчыя дасягненні, высокую якасць праводзімых заняткаў. Дарэчы, заработная плата работнікаў Цэнтра не абмяжоўваецца.

**— Калі ласка, некалькі слоў пра базавыя навучальныя ўстановы.**

— З імі ў нас заключаны дагаворы, на падставе якіх Цэнтр узяў пад сваю апеку ўсю творчую і навучальна-выхаваўчую работу эстэтычнага накірунку, забяспечыў кваліфікаванымі педагогамі, праводзіць разам са школамі выстаўкі дзіцячых работ, тэатралізаваныя прадстаўленні і святы, арганізоўвае масавыя канцэрты, спектаклі, тэматычныя вечары і іншыя мерапрыемствы. Работнікі нашага Цэнтра аказваюць метадычную і кансультацыйную дапамогу па эстэтычнаму выхаванню дзяцей выкладчыкам і класным кіраўнікам школы, у афармленні і абсталяванні класаў. Для рэгулярнага правядзення заняткаў школы нам прадастаўляюць выставачныя і актавыя залы, класы па музыцы і спевах, выяўленчаму мастацтву і мастацкай працы, харэаграфіі і гімнастыцы, для музычна-тэатральных гульняў.

Адным словам, адкрыццё і дзейнасць Цэнтра прадыктавана жыццём. З'явілася магчымасць больш поўна развіваць інтэлектуальныя здольнасці вучняў, далучаць іх да нацыянальнага мастацтва, да гістарычнай і культурнай спадчыны сваёй Бацькаўшчыны. Дарэчы, выпускнікі базавых навучальных устаноў разам з атэстатам аб сярэдняй адукацыі атрымаюць пасведчанні з прысваеннем спецыяльнасці кіраўнік студыі: драматычнай, музычна-драматычнай, пантамімы, этнаграфіі, лялек і інш.

■



РОДНАЕ СЛОВА

# Гаворым па-беларуску

## Зьміцер САНЬКО

## "Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем"

ВСЯК ПО-СВОЕМУ С УМА СХОДИТ — Як хто хоча, так па сваім бацьку плача; Кожны папсвойму дурнее; Розум на розум не выпадае; Кожная галава свой розум мае; У каго якая натура.

ВСЯК СВЕРЧОК ЗНАЙ СВОЙ ШЕСТОК — Ведай, каток, свой куток; Калі ў кепскім кажусе, не садзіся на куце; Ёсць у каліце — сядай на куце, а на плячах хатуль — пытаюць: "Адкуль?"; Не лезь, куды галава не лезе.

В ТЕСНОТЕ, ДА НЕ В ОБИДЕ — Дзе цесна, там пацешна; Цесна сядзець, ды добра глядзець; Дзе збяруцца, там смяюцца; Цяснота — не крывота.

В ТИХОМ ОМУТЕ ЧЕРТИ ВОДЯТСЯ — У ціхім балоце чэрці растуць; І чорт ціхманам быў; Хто ціха ходзіць, той густа месіць; Ціхая свіння глыбока рые; Ціхая вада грэблю рве.

В ЧУЖОМ ГЛАЗУ СУЧОК ВИДИТ, А В СВОЕМ БРЕВНА НЕ ЗАМЕЧАЕТ — Чужыя грахі перад вачыма, а свае за плячыма; Чужое бачыць пад лесам, а свайго не бачыць і пад носам; У чужым воку і парушынку ўгледзім, а ў сваім і калоды не пабачым; Свайго горба ніхто не бачыць.

ВЫШЕ ГОЛОВЫ НЕ ПРЫГНЕШЬ — Вышэй ад сваіх пят не падскочыш; Вышэй носа не пераскочыш; Звыш лобу вочы не ходзяць.

ГДЕ МНОГО СЛОВ, ТАМ МАЛО ДЕЛА — Языком у Вільні, а галавою за печчу; Слоў — на мех, а спраў — на смех. Каб так смыкам, як языкам; Гультай не чалавек, балбатун не гаспадар.

ГОЛОВОЙ СТЕНЫ НЕ ПРОШИБЕШЬ — Лобам муру не праб'еш; Муру галавой не разаб'еш; Хоць лоб і медны, але ж мур каменны.

ГОЛОД НЕ ТЕТКА — Голад не дзядзіна, з'ясі і крадзена; Голад не цётка, з'есць, што патрапіць; Голад не свой брат; Галоднаму ўсё смакуе; На галодны зуб усё смачна; Галоднаму асцюкі не колюцца; Чорт з голаду й мухі еў.

ГОРБАТОГО МОГИЛА ИСПРАВИТ — Гарбатага хіба труна выпрастае (паправіць); Гарбатага выпрастае магіла, а ўпартага — дубіна; Крывога дрэва не выпрастаеш; З дугі аглоблі не зробіш; Калі пень, то і будзе пень.

ГОСПОДЬ ТЕРПЕЛ И НАМ ВЕЛЕЛ — Бог жабраваў і нам казаў; Цярпі, Зося, так прыйшлося; Цярпі, казача, не выпадае йначай.

ГРОМ НЕ ГРЯНЕТ — МУЖИК НЕ ПЕРЕКРЕСТИТСЯ — Не прыйдзе трывога — не ўспомніш і бога; Як трывога, тады да бога; Пакуль пярун не грымне, чалавек яму не паклоніцца; Пакуль не загрыміць, мужык не перахрысціцца.

ДАЮТ — БЕРИ, БРАНЯТ — БЕГИ — Калі вераць, не бажыся, калі б'юць, не прасіся; Што кажуць — рабі, што даюць — бяры (еш); Не йму́ць веры — не бажыся, а б'юць — не маліся; Хоць няшмат даюць — бяры, хоць недалёка шлюць — не йдзі.

ДЕЛУ — ВРЕМЯ, ПОТЕХЕ — ЧАС — Перш папрацуй, а тады й патанцуй; Была нядзеля — і мы дудзелі, цяпер серада — працуй, грамада; Калі — на лянок, а калі — у танок; Гульня, ды не штодня; Годзе цалавацца, пара і на хлеб старацца.

ДЕСЯТАЯ (СЕДЬМАЯ) ВОДА НА КИСЕЛЕ — На адным сонцы анучы сушылі; Пень гарэў, а чорт ногі пагрэў, іскра — і радня стала; Адзін пень гарэў, а другі спіну грэў; Сваякі гарбузовыя, жывуць цераз дарогу наўпрысядкі.

■

## ГАРЧЫЧНІК

Міхась СКОБЛА

### Гарбузны вяж

Пародыя

*Кручу гарбуз. Такая асалода —*
*Кручу я глобус роднага гарода,*
*Зялёна-спелы, жоўтыя бакі —*
*Узгорачкі, рачулкі, астраўкі.*
Казімір КАМЕЙША.

Хто вершыкі складае для народа,
А я, у суседскі трапіўшы гарод,
Кручу гарбуз... Такая асалода!
Хай пачакаюць вершы і народ.

На Іслач адпраўляецца аўтобус,
У песняй разгуканыя бары.
— Каму — гарбуз, каму — сапраўдны глобус, —
Смяюцца празаічныя сябры.

І пальцамі пакручваюць ля скроні...
Забыўшы ганарары і тамы,
Я грэю Антарктыду на далоні,
Ратуючы пінгвінаў ад зімы.

Вярблюдам спачуваючы ў Сахары,
Я на каленях споўзаў паўграды;
Ды ў госпада не вымаліўшы хмары,
Прыпёр і сам са студні я вады.

Я прадаваў халву ў Дар - эс - Саламе,
Я паляваў у моры на кіта,
Чытаў сябе самога далай-ламе,
А ён мне не па-нашаму: — Лухта!

Я вандраваў вяршынямі Паміра...
І невядома, сціх бы ён ці не,
Калі б сусед не выгнаў Казіміра,
Перажагнаўшы кіем па спіне!

Марк СМАГАРОВІЧ

### Наш Адам

Над рыфмаю Адам, бывала,
карпеў... Ды толькі вось бяда —
у кожным вершы залівала
агонь паэзіі вада.

І ён на паэтычнай ніве
не мог зрабіць наперад крок.
А ўсё ж у творчым жыў парыве
і запісаўся у драмгурток.

Ды зразумеў ён: "Да магілы
артыстам стаць не ўдасца мне..."
І спрабаваць пачаў ён сілы
свае ў музычнай галіне.

Не стаў паэтам, ні артыстам,
ні кампазітарам Адам...
А мог быць добрым трактарыстам
ён стаць, але не хоча сам!



*— Анюта, чаму не прыйшла на спатканне?*
Фота В. ДРАЧОВА.

#### *Класікі ўсміхаюцца*

**ВЫ ДАКАЗАЛІ АДВАРОТНАЕ**

Аскар Уайльд, размаўляючы з пажылой актрысай, вельмі хваліў яе апошнюю ролю. Яна ж, чакаючы далейшых кампліментаў, усклікнула з прытворнай сціпласцю:

– Ды што вы, у гэтай ролі трэба было выступаць жанчыне маладой і прыгожай!..

– Не, васпане, вы даказалі якраз адваротнае, – сказаў пісьменнік.

**Я ЗГОДЗЕН**

Вядомы швейцарскі пісьменнік Готфрыд Келер піў віна значна больш, чым дазваляла здароўе. Устрывожаны ўрач папярэдзіў яго далікатна, каб ён ужываў менеи вадкасці.

Келер спахмурнеў, але праз хвіліну ягоны твар асвятліўся ўсмешкай:

– Згодзен, пан доктар. З сённяшняга дня я адмаўляюся ад супу!

**ЯК Я ТАБЕ ЗАЙЗДРОШЧУ!..**

Альфонс Кар сустрэў неяк на вуліцы Бальзака і пачаў празмерна захапляцца яго новай кнігай.

– Ах, мой дружа, – запярэчыў Бальзак, – як я табе зайздрошчу.

– Чаму? – здзівіўся Кар.

– Ты не аўтар гэтай кнігі і можаш гаварыць аб ёй усё, што думаеш. Я ж, на вялікі жаль, звязаны па руках і нагах. Хваліць – няёмка, раскрытыкаваць – ніхто не паверыць. А маўчанне ўсе прымуць за ганарлівасць...

**НЯВІННЫ СПЯВАК**

Вальтэр прысутнічаў на дабрачынным канцэрце, цярпліва слухаў спевака-аматара, а потым не вытрываў і голасна сказаў:

– Усё-такі гэты спявак моцна фальшывіць.

– Ён не вінаваты, – растлумачыў сусед. – Бядак, ён з нараджэння глухаваты...

– Тады, магчыма, трэба яму сказаць, што арыя ўжо скончылася?

Сабраў М. ФЕДЗЮКОВІЧ.



#### *З Юрасёвага куфра*

Калі ў сям'і мір, чакай дэмаграфічнага выбуху.

***

Ініцыятыва скандалу належала мужу, гукавое афармленне — жонцы.

***

Муж і жонка пасварыліся — і перасталі лаяцца.

***

У час спрэчкі жонка гаворыць мужу:

— Ты, каму я аддала лепшыя гады жыцця...

— Не кажы так, мне страшна падумаць, што мяне яшчэ чакае ў горшыя гады!

***

— Я ўпэўнена,— у запальчывасці гаворыць жонка,— што ў раі жанчыны знаходзяцца асобна ад мужчын.

— Несумненна,— адказвае муж,— інакш, які б гэта быў рай...

***

— Скажы, навошта ты выйшла замуж за мяне?

— Я не ведала, што ты такі дурны!

— Гэта няпраўда, ты добра ведала гэта!

***

— Калі б не ты,— уздыхнула жонка,— мы былі б ідэальнай парай.

***

Муж і жонка не размаўляюць некалькі дзён. Але вось мужу прыходзіцца ехаць у камандзіроўку. Цягнік адыходзіў рана. І муж піша запіску жонцы:"Разбудзі мяне ў шэсць раніцы". Жонка ўстае рана, знаходзіць на кухонным століку запіску і, глянуўшы на насценны гадзіннік, піша:"Уставай! Ужо шэсць!"

***

— Дружа, віншую з тым, што нарэшце, памірыўся з жонкай. Я бачыў, як вы дружна ўчора пілавалі дровы.

— Эх, стары, гэта ж мы дзялілі мэблю...

***

— Як закончылася твая сварка з жонкай?

— Яна прыпаўзла да мяне на каленях.

— Няўжо? І што яна сказала?

— Яна сказала:"Вылазь з-пад ложка, подлы баязлівец!"

***

— Божухна, што ў цябе з галавой?

— У яе трапіла лятаючая талерка.

— Ды адкуль жа яна ўзялася?!

— Не разумею, дзе жонка іх купляе.

***

Сусед гаворыць суседу:

— Я чуў, што ўчора твая жонка нешта вельмі расшумелася!

— Так, яна ўзлавалася на сабаку.

— Бедны сабачка! Твая жонка пагражала яму забраць ключ ад уваходных дзвярэй...

***

— За дзесяць гадоў сумеснага жыцця мы толькі адзін раз выйшлі з дому разам з мужам.

— У тэатр?

— Не, у нас быў пажар.

***

Адвакат да пацярпеўшай:

— У вас не было падазрэнняў, што ў вашу кватэру залезлі зладзеі, калі вы ўбачылі беспарадак у пакоях і раскіданыя ўсюды рэчы?

— Не. Проста я думала, што мой муж зноў шукаў чыстую кашулю.

## СЕНСАЦЫЯ

### Знойдзены Ноеў каўчэг?

*На вышыні 2500 метраў над узроўнем мора, недалёка ад гары Арарат, у раёне, дзе мяжуюць паміж сабой Турцыя, Іран і Арменія, знойдзены астанкі Ноева каўчэга. З гэтым сенсацыйным сцвярджэннем выступіла група археолагаў з ЗША і краін Блізкага Усходу, якія займаліся апошнія шэсць гадоў пошукамі легендарнага судна.*

Інфармацыя была апублікавана ў лонданскай газеце "Обсэрвер", і на гэты раз турэцкі ўрад на самай справе перакананы, што археолагі зрабілі унікальнае адкрыццё. Вельмі многім раней было адмоўлена ў правядзенні раскопак на гары Арарат, але цяпер усе неабходныя дазволы ўжо выдадзены. Урад абяцаў таксама буйнамаштабную дапамогу археолагам на новым этапе раскопак, якія плануецца пачаць сёлета.

Пад зямлёй, на ўчастку, выяўленым археолагамі, знаходзіцца гіганцкі прадмет, які сваімі абрысамі нагадвае лодку. Яго даўжыня дасягае 170 метраў, а шырыня — 45. Такім чынам, каўчэг, калі гэта сапраўды ён, шырэйшы за авіяносец "Куін Мэры", самае вялікае судна сучаснасці. Праўда, ён амаль у два разы карацейшы за яго.

У раёне раскопак вучоныя выявілі таксама велізарныя каменныя глыбы са штучна прапрабленымі адтулінамі. На думку археолагаў, гэтыя глыбы служылі ў старадаўнія часы своеасаблівымі прычаламі для карабля. На думку Салі Бірктутана, прафесара універсітэта Атацюрка і кіраўніка археалагічнай групы, узрост знойдзенага прадмета — 100 тысяч гадоў! "Няма сумнення, што перад намі велізарная лодка, зробленая рукамі чалавека. Я практычна не сумняваюся, што гэта Ноеў каўчэг. Паводле кнігі "Быцця", каўчэг "прышвартаваўся" да гары Арарат, каля якой мы яго і знайшлі", — гаворыць ён. Радыевугляродны аналіз паказвае, што глеба ў раёне, дзе знойдзены каўчэг, багата вокісламі жалеза.

Дэвід Пасалд, амерыканскі спецыяліст у галіне гісторыі караблебудавання, які таксама ўдзельнічаў у пошуках каўчэга, сцвярджае, што з дапамогай радара ўдалося атрымаць на дзіва дакладныя і выразныя контуры судна. Яны настолькі ясныя, што можна разгледзець абшыўку бартоў карабля.

Дэвід Пасалд перакананы, што Ноеў каўчэг аказаўся каля гары Арарат не ў выніку патопу. На думку вучонага, мела месца таямнічае павелічэнне зямнога прыцяжэння, а таксама павышэнне ўзроўню Сусветнага акіяна. А таму каўчэг, згодна з доказамі Пасалда, пагрузіўся на дно і засеў паміж падводнымі скаламі.

Афіцыйныя навуковыя колы пакуль захоўваюць маўчанне. Усе чакаюць вынікаў раскопак, якія павінны пачацца гэтым летам. Зрэшты, Уэндэл Джонс, адзін з самых вядомых амерыканскіх даследчыкаў Блізкага Усходу, які паслужыў прататыпам галоўнага героя ў славутай серыі фільмаў Стывена Спілберга пра Індыяна Джонса, мае намер у наступным месяцы даць інтэрв'ю, якое будзе транслiравацца па тэлеканалах многіх краін свету. Мяркуючы па ўсім, Джонс, які таксама ўдзельнічаў у пошуках каўчэга, збіраецца развеяць сумненні скептыкаў адносна прыроды сенсацыйнага адкрыцця.

Паводле матэрыялаў замежнага друку.

### ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

## СПОРТ

### Выспела сенсацыя!

Інтрыга распачалася ў панядзелак. У папярэдніх спаборніцтвах па акрабатычных скачках на лыжах беларускі фрыстайліст Аляксей Парфянкоў набраў 228,49 ачка і лідзіруе перад фіналамі. Развязка настане толькі ў чацвер, менавіта тады яны пройдуць. У жанчын пакуль у лідэрах – аўстрыйка Крысці Маршал, а наша Юлія Раковіч на пятай пазіцыі. Нездарма ўсё ж Парфянкоў абяцаў прывезці дадому алімпійскі медаль, тым больш, што ён выконвае самы тэхнічна складаны скачок.

21 лютага адбыліся яшчэ два алімпійскія спаборніцтвы з удзелам беларускіх спартсменаў. Завяршыўся трохдзённы марафон у фігурным катанні, які пераадолелі танцавальныя пары. Знакамітыя Джэйн Торвіл і Крыстафер Дын з Вялікабрытаніі, хоць і атрымалі ўяўны прыз сімпатый гледачоў, заваявалі толькі бронзавыя ўзнагароды. Першыя дзве прыступкі п'едэстала традыцыйна занялі расіяне: першыя Аксана Грышчук і Яўген Платаў, другія – Мая Усава і Аляксандр Жулін. Трэнер апошніх – Наталля Дубава – рыхтавала і беларускую пару (Таццяну Наўка і Самвела Гезаляна), якая ў выніку засталася адзінаццатай.

Жаночыя зборныя лыжніц правялі эстафету 4х5 км. Бліскуча перамагла расійская каманда, за ёй фінішавалі нарвежкі і італьянкі. Нашы дзяўчаты выступілі горш за ўсіх і апынуліся на апошнім чатырнаццатым месцы, яны прайгралі расіянкам аж сем хвілін.

На наступны дзень адбылася мужчынская эстафета 4х10 км. Усю дыстанцыю побач прайшлі нарвежскія і італьянскія лыжнікі, а таму асноўная барацьба выдалася на чацвёрты этап, дзе да апошняй секунды змагаліся Б'ёрн Дэлі і Сільвія Фаўнер. На фінішы італьянец апярэдзіў Дэлі на 4 дзесятыя секунды. Трэцімі фінішавалі фіны, а зборная Беларусі прыйшла дванаццатай, ззаду засталіся каманды ЗША і Японіі.

У аўторак у іншых спаборніцтвах нашы спартсмены не прымалі ўдзелу. Затое цяпер да апошняга дня нам ёсць за каго "хварэць". Біятланісты і біятланісткі, лыжнікі і лыжніцы, фрыстайлісты і фрыстайлістка.

У сераду страляючыя лыжніцы беглі спрынт – 7,5 кіламетра. Нарэшце спраўдзіліся нашы надзеі на Святлану Парамыгіну. Ёсць медаль! Сярэбраную ўзнагароду заваявала яна, толькі адну дзесятую секунды выйграўшы ў Валянціны Шчэрба з Украіны. Няўдала правяла Света першую стральбу лежачы – два промахі. Затое на другім агнявым рубяжы яна папала па ўсіх мішэнях, а канадка Мірыям Бедар, якая ішла за ёй, менавіта ў стральбе стоячы зарабіла два штрафныя кругі. А на фінішы Бедар на 1,1 секунды абышла Парамыгіну. Яе вынік – 26.08,8(2), вынік Светы – 26.09,9(2), Валянціна Шчэрба паказала час 26.10,0(0). Упала літаральна за метр да фінішу і засталася на чацвёртым месцы Іна Шэшкіль з Казахстана. Вельмі моцна выступіла наша Ірына Какуева – 6 месца – 26.38,4(2). Доўгі час яе вынік пасля першага рубяжа заставаўся лепшым і – агідныя промахі ў другой стральбе. Вынік Наталлі Пермяковай – 28.26,9(4), яна заняла 38-е месца. А Людміла Лысенка стартавала пад першым нумарам, а фінішавала ніжэй сярэдзіны табліцы з часам 29.23,9(3).

Яўген ПУЧКОЎ.

## КІНААФІША МІНСКА

### 24 лютага

**"МАСКВА"**: "Узыходзячае сонца" (2 с.)*** — 11.00, 16.40, 19.00, 21.20. "Паветраны пацалунак"*** — 13.20. "Вельмі прыгожыя, каб жыць"*** — 14.30.

**"КАСТРЫЧНІК"**: "Узыходзячае сонца" (2 с.)*** — 14.40, 18.20. "Паветраны пацалунак"*** — 13.00. "Бабнік-2"** — 17.00, 20.40. Музычна-пацяшальная праграма "Макс-шоу" — 21.30.

**"АЎРОРА"**: "Самсон і Салі" (д) — 10.00. "Зачараваны даляр" (д) — 14.00. "Моцны арэшак-2" (1,5 с.)** — 10.30, 12.40, 14.50, 17.00, 19.00, 21.20. "Кроў і пясок"*** — 11.40, 19.30, 21.10. "Я і Ён"*** — 15.50, 17.40.

**"БЯРЭСЦЕ"**: "Месяц—44" (д) — 15.00. "Моцны арэшак-2" (1,5 с.)** — 11.50, 15.40, 19.30. "Кроў і пясок"*** — 14.00, 17.50, 21.40. "Мядовы месяц у Лас-Вегасе"** — 11.30, 18.30. "Самыя шалёныя ў свеце пілоты" — 13.10, 16.40, 20.20.

**"ВІЛЬНЮС"**: "Моцны арэшак-2" (1,5 с.)** — 11.50, 17.20, 21.00. "Кроў і пясок"** — 14.10, 19.30. "Ранняя сталасць, ці Хлопчык-лавелас" — 15.40. Відэазала: 13.10, 15.15, 17.20, 19.25, 21.30.

**"ДРУЖБА"**: "Манашкі ў бягах" — 13.30, 15.10, 18.10, 21.30. "Мядовы месяц у Лас-Вегасе"** — 16.30, 19.50. Відэакафе працуе з 17.00. Інфармацыйна-пацяшальная праграма — 19.30.

**"ПАРТЫЗАН"**: "Узыходзячае сонца" (2 с.)*** — 12.10, 19.20. "Паветраны пацалунак"*** — 16.10. "Наёмны забойца" — 10.30 (л), 14.30, 17.40, 21.40.

**"ПЕРАМОГА"**: "Моцны арэшак-2" (1,5 с.)** — 11.40, 15.40, 18.00. "Кроў і пясок"** — 10.00, 13.50, 20.20. Відэазала: "Паліцэйскі па-за законам" — 10.00, 11.40, 13.20, 15.00, 16.40, 18.20, 20.00. Відэабар працуе з 10.00 да 16.00 і з 17.00 да 23.00.

**"САЛЮТ"**: "Узыходзячае сонца" (2 с.)*** — 13.25, 15.40, 17.55, 22.00 (н) — "Паветраны пацалунак"*** — 10.00. "Дзейнічай, Маня!" (1,5 с.) — 11.30, 20.10.

**"СУЧАСНІК"**: "Дзейнічай, Маня!" (1,5 с.) — 14.00. "Эмануэль"**** — 16.00, 17.40, 19.20, 21.00.

**"БЕЛАРУСЬ"**: "Споведзь палюбоўніцы" — 10.20, 12.20, 18.00, 21.30. "Міс Катастрофа" — 11.50, 15.20, 18.50. "Цыган" — 10.30, 16.10, 19.40. "Жанчына ў полымі"*** — 13.30, 17.00. "Моцны арэшак-2" (2 с.)** — 14.00, 20.30. Інфармацыйна-пацяшальная праграма — 20.30.

**"КІЕЎ"**: "Татальнае сачэнне" — 14.30, 16.30. "Японская лэдзі Чатэрлей"**** — 18.30, 20.30.

**"КАМСАМОЛЕЦ"**: "Паляўнічыя на монстраў" — 13.00, 16.30, 19.40, 21.00. "Манашкі ў бягах" — 11.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00. "Мужчынскі зігзаг" — 15.00. "Мая мачаха — іншапланецянка" (1,5 с.) — 12.00, 17.40.

**"МІР"**: "Мужчынскі зігзаг" — 14.00. "Мая мачаха — іншапланецянка" (1,5 с.) — 11.00, 15.00, 19.00. "Няма куды больш бегчы" — 13.00, 17.00, 20.50. "Манашкі ў бягах" — 12.00, 16.00, 18.00, 20.00. У кінатэатры працуе відэазала.

**"ПІЯНЕР"**: "Джунглі" (д) — 15.10. "Прынц Хадон і прынцэса Ранран" (д) — 11.50. "Школа сцюардэс" — 13.30, 17.10. "Сегун Маэда" — 10.00 (л). "Паўночная гарачыня"*** — 19.00, 20.40. Відэазала: "Робатэх-1" (д) — 10.00. "Сканеры-3" — 11.20, 15.00, 18.40. "Чужыя грошы" — 13.10, 16.50, 20.30.

**"РАКЕТА"**: "Равучы агонь" — 14.00. "Гарачае лета"**** — 16.10, 19.40. "Сямейства Дракулы"*** — 18.00.

**"РАДЗІМА"**: "Я і Ён"*** — 12.00, 15.40, 19.40, 21.00. "Сэрцы трох-2" (2 с.) — 13.30, 16.30, 17.10.

**"ЗМЕНА"**: "У ложку з ворагам"*** — 12.00, 16.10, 18.00. "Пераступіўшы мяжу"** — 14.00, 19.50.

**"ЦЭНТРАЛЬНЫ"**: "Манашкі ў бягах" — 13.20, 16.15, 17.50, 21.00. "Золата"*** — 10.30, 19.25. "Мужчынскі зігзаг" — 12.00, 14.55.

**"ЭЛЕКТРОН"**: "Няма куды больш бегчы" — 14.00, 15.40, 17.20, 19.00, 20.40. "Клас 1999"*** — 14.40, 16.20, 19.40. "Я і Ён"*** — 18.00, 21.20.

**"АВАНГАРД"**: "Пунцовая кветачка" і іншыя м/ф (д) — 10.30. "У ложку з ворагам"*** — 15.00, 19.00. "Сямейства Дракулы"*** — 17.00.

**"ЗНАМЯ"**: "Там на невядомых сцяжынках..." (д) — 14.40. "Ніндзя правіцеля" — 16.00, 19.00. "Сямейства Дракулы"*** — 17.30, 20.30.

**"УДАРНІК"**: "Раз, два — гора не бяда!" (д) — 14.10. "Сэрцы трох-2" (2 с.) — 15.40. "Пераступіўшы мяжу"** — 18.00, 19.40.

*(д) — дзіцячы сеанс;*
*** — дзеці да 16 гадоў дапускаюцца ў суправаджэнні бацькоў;*
**** — дзеці да 16 гадоў не дапускаюцца;*
***** — дарослым з 18 гадоў;*
*(л) — ільготны сеанс (скідка на 50 працэнтаў ад кошту білета);*
*(н) — начны сеанс (кошт білета на 30 працэнтаў вышэйшы).*



## ХАТНІ ЭКРАН

### ■ 24, чацвер

**Беларускае тэлебачанне**
8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. ТА "Рэха". "Крэда".
8.30. Пад купалам Сусвету.
8.40. Надвор'е.
8.50. Пяць хвілін на жарты.
8.55. Фільм-канцэрт.
◆9.20. "Ніхто, акрамя цябе".
10.05. "На 101-м кіламетры". Навукова-папулярны фільм.
◆10.55. "Жыве такі хлопец".
12.30. "Аб'ектыў-тэатр".
13.30. Навіны.
◆13.40. "Лэдзі Джэйн". (Англія).
15.55. Кінанарыс.
16.10. ТБ – школе. Музыка.
16.40. Літаб'яднанне СШ № 1 г.Беразіно.
17.10. "Уладыка". Д/ф.
17.40. Гаспадар.
18.10. Абласныя навіны (Гродна).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Сустрэча з доктарам Д.Сайковым.
20.00. Пазіцыя ўрада.
20.15. Кінанарыс.
20.25. Зачытайце маё пісьмо...
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.45. Пяць хвілін на жарты.
21.50. Надвор'е.
22.00. На сесіі ВС Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння: "Ніхто, акрамя цябе"; Студыя "Тэлесябрына".

**Канал "Астанкіна"**
5.10, 8.00, 11.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
5.20. Ранішняя размінка.
5.30. Раніца.
7.45. Агляд рынку нерухомасці.
* 8.20. Мультфільм.
◆8.30. "Проста Марыя".
9.20. Клуб падарожнікаў.
10.10. ...Да 16 і старэйшым.
10.50. Прэс-экспрэс.
◆11.20. "Гарачаў і іншыя".
13.25. Алімпійскія гульні. Лыжны спорт. 30 км. Мужчыны.
15.40. ...Да 16 і старэйшым.
16.20. Алімпійскія гульні. Гарналыжны спорт. Слалам-гігант. Жанчыны.
16.50. Тэхнадром.
17.25. Лабірынт.
17.50. Дакументы і лёсы.
18.00. Надвор'е.
◆18.05. "Проста Марыя".
18.55. Я.Габрыловіч пра час і пра сябе.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.35. Надвор'е.
20.45. Лато "Мільён".
◆21.15. "Наш амерыканскі Бора".
22.45. Прэс-экспрэс.
23.10. Дзённік Алімпіяды.
23.30. Алімпійскія гульні. Канькабежны спорт. Шорт-трэк.

**Канал "Расія"**
6.00, 13.00, 19.00, 22.20. Весткі.
6.20. Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30. Формула-730.
7.00. Відэапаэзія. Ф.І.Цютчаў.
7.20. Час дзелавых людзей.
7.50. Паехалі.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.30. "Танцаваць да раніцы". А.Апіна.
9.10. "К-2" прадстаўляе.
10.00. Новая лінія. "Хроніка нацыянальнай палітыкі".
10.30. Сялянскае пытанне.
10.50. На Алімпійскіх гульнях.
◆13.25. "Твой сучаснік". 1-я серыя.
14.25. Калі вам за...
14.55. Тэлегазета.
15.00. Паралелі.
15.15. Канцэрт.
15.30. Там-там навіны.
15.45. Студыя "Рост".
16.15. На Алімпійскіх гульнях.
16.55. "Жанчыны свету".
17.25. "Не быць дыназаўрам...".
17.40. Будні.
18.25. Я – лідэр.
18.45. Свята кожны дзень.
19.25. Падрабязнасці.
◆19.35. "Санта-Барбара".
20.25. Алімпійскі кур'ер.
21.00. Бясшумныя лідэры.
21.30. Соф'я Губайдуліна.
22.40. Аўтаімгненне.
22.45. Зоркі гавораць.
22.50. Экран крымінальных паведамленняў.
23.00. "Эрмітажны тэатр".

**Санкт-Пецярбург**
6.30. Інфарм-ТБ.
* 6.50. "Алдар Касэ".
7.05. "Бярозавыя галасы". Д/ф.
8.10. "Еўрапейскі калейдаскоп".
8.40. Новы Пецярбург.
9.10. Залаты павучок.
9.45. Без назвы.
10.00. Фестываль лялечных тэатраў.
11.20. "Інжынерны замак". Д/ф.
11.30. Інфарм-ТБ.
11.40. О-ля-ля!
12.10, 14.25, 18.05, 20.40, 0.45. Музычны момант.
12.15. Гістарычны альманах.
13.00. Фестываль лялечных тэатраў.
14.30. Інфарм-ТБ.
◆14.40. "Блакітныя горы, ці Непраўдападобная гісторыя".
16.20. Тайны забытага рамяства.
16.50. Адказы на пісьмы.
17.35. "Пскоўскі трыпціх". Перадача 2-я.
18.10. Вялікі фестываль.
18.30. Інфарм-ТБ.
18.55. Гадзіна выбаршчыка.
20.00. Сёння.
20.35. Тэлемагазін.
◆20.50. "На парозе ночы".
* 21.40. "Вязень".
21.50. Музычны канал.
22.35. Ваш стыль.
22.45. Інфарм-ТБ.
23.10. Музычны канал.
0.10. Танцуе Ала Лагода.

**8-ы канал**
* 18.00. "Сямейства Барклі"; "Калізей" з серыі "Аміга і яго сябры".
18.30. У межах Осціна "Тэхаскія хлопцы".
* 19.00. Мультфільмы У.Дыснея.
19.15. Інтэрв'ю без пытанняў.
◆19.30. "Лабірынт правасуддзя". "Нават адвакаты спяваюць блюз".
20.25. "Схаваная камера". Камедыйнае шоу.
◆20.50. "Лёс".
◆21.40. "Чалавек з Ку-Клукс-клана".
23.20. Праграма відэакліпаў.

### ■ 25, пятніца

**Беларускае тэлебачанне**
8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Надвор'е.
8.30. Пяць хвілін на жарты.
8.35. Фільм-канцэрт.
9.00. ТБ – школе. Музыка.
◆9.30. "Ніхто, акрамя цябе".
10.15. "Крок". "Пяць зорак".
11.15. "Першыя зярняткі". Д/ф.
11.45. Пазіцыя ўрада.
12.00. Фільм-канцэрт.
12.30. "Аб'ектыў-тэатр"
13.30. Навіны.
13.40. Дзелавая хроніка.
◆13.50. "Рысь вяртаецца".
15.05. Радавод.
15.50. А.Петрашкевіч. "Дагарэла свечачка..." Спектакль.
16.50. Тэлеклуб "Пошук".
17.30. Новыя вершы Р.Тармолы.
18.00. Дзелавая хроніка.
18.10. Абласныя навіны (Магілёў).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Памяці А.Радуцкага.
19.30. Смаргонь: праблемы мясцовага самакіравання.
◆20.15. "Вера".
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.30. Пад купалам Сусвету.
21.45. Пяць хвілін на жарты.
21.50. Надвор'е.
22.00. На сесіі ВС Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння –
◆"Ніхто, акрамя цябе".
◆"Любоўныя пісьмы з падтэкстам".

**Канал "Астанкіна"**
5.10, 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.15. Навіны.
5.20. Ранішняя размінка.
5.30. Раніца.
* 7.45. "Добрая казка".
8.20. Паглядзі, паслухай...
◆8.40. "Райскі сад".
10.00. Вынікі фестывалю тэлепраграм у г.Суздалі.
10.50. Прэс-экспрэс.
◆11.20. "Гарачаў і іншыя".
14.25. Брыдж.
14.45. Дзелавая хроніка.
14.55. Бізнес-клас.
15.10. Урокі Цэйса.
◆15.30. "Райскі сад".
16.50. Азбука ўласніка.
17.25. Навіны культуры.
17.40. Чалавек і закон.
18.10. Надвор'е.
18.15. Японія з А.Калошыным.
18.45. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.35. Надвор'е.
20.45. Чалавек тыдня.
21.00. Алімпійскія гульні. Фігурнае катанне. Жанчыны. Адвольная праграма. У перапынку – Прэс-экспрэс.
23.25. Дзённік Алімпіяды.
23.45. Алімпійскія гульні. Скачкі з трампліна.

**Канал "Расія"**
6.00, 13.00, 19.00, 22.10. Весткі.
6.20. Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30. Формула-730.
7.00. Студыя "Рост".
7.20. Час дзелавых людзей.
7.50. Паехалі.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.30. Зваротны адрас.
* 9.00. Мульці-пульці.
9.10. Новая лінія.
9.40. Сялянскае пытанне.
◆10.00. "Санта-Барбара".
10.50. На Алімпійскіх гульнях.
◆13.25. "Твой сучаснік". 2-я серыя.
14.50. Бізнес у Расіі.
15.20. Там-там навіны.
15.35. Рэк-тайм.
16.05. Новая лінія.
◆16.50. "Полі". 1-я серыя.
17.40. Інтэрв'ю прэм'ер-міністра Фінляндыі Э.Ахо.
17.50. На Алімпійскіх гульнях.
18.45. Свята кожны дзень.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. Сустрэча з М.Жванецкім.
20.40. "К-2" прадстаўляе.
21.35. Алімпійскі кур'ер.
22.30. Аўтаімгненне.
22.35. Зоркі гавораць.
22.40. На Алімпійскіх гульнях. Хакей.

**Санкт-Пецярбург**
6.30. Інфарм ТБ.
6.55. "Пра вожыка і пра іншых". Д/ф.
◆7.15. "На парозе ночы".
8.10. Эстонія: вецер перамен.
8.40. Музычны канал.
9.40. Адказы на пісьмы.
10.30. Хуткая дапамога.
11.00. Фестываль лялечных тэатраў.
12.20. Інфарм ТБ.
12.30, 14.25, 18.05, 20.40, 1.30. Музычны момант.
12.35. Дом кіно.
13.35. Актуальная экалогія.
14.05. Урок нямецкай мовы.
14.30. Інфарм ТБ.
14.40. "На сямі вятрах". Перадача 1-я.
15.10. "Крыжыкі-нулікі". Гульня для старшакласнікаў.
15.45. Кірмаш вакансій.
16.00. Фестываль лялечных тэатраў.
17.20. "Унікальныя аперацыі". Рэпартаж з г.Кіраўска.
17.35. "Пскоўскі трыпціх". Перадача 3-я.
18.10. Вялікі фестываль.
18.30. Інфарм ТБ.
18.55. Выбары.
20.00. Сёння.
20.35. Тэлемагазін.
20.50. "До-бра-шоу".
◆21.50. "Серэнада".
* 22.15. Мультфільм для дарослых.
22.35. Ваш стыль.
22.45. Інфарм ТБ.
◆23.10. "Сівая легенда".
1.00. Мелодыі 40–50-х гадоў.

**8-ы канал**
◆18.00. "Карусель".
18.40. Музычная праграма.
* 19.15. Мультфільмы У.Дыснея.
19.30. Інтэрв'ю без пытанняў.
◆19.45. "Хіл Стрыт Блюз". "Вясенняе буянства".
◆20.40. "Я купляю гэтую жанчыну". 149-я, 150-я серыі.
21.35. "Час мясцовы".
◆21.50. "Аўраам Лінкольн".
23.20. Праграма відэакліпаў.

*Каб зэканоміць ваш час:*
◆ мастацкія фільмы
* мультфільмы

### *НАДВОР'Е*

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае надвор'е, часам снег. Тэмпература паветра ў Брэсце, Гомелі, Мінску – -2– -4°, Гродна – -3– -5°, Віцебску, Магілёве – -4– -6°. У наступныя двое сутак месцамі па рэспубліцы – невялікі снег. Тэмпература паветра ўначы – -5– -10°, месцамі пры праясненні – да -15°. Удзень – -1–6°. 26-га на паўночным захадзе – каля 0°.

Валянціна СКРЭБЕЦ, інжынер-сіноптык Белгідрамета.

Калектыў газеты "Чырвоная змена" выказвае глыбокае спачуванне нашай супрацоўніцы — Каляга Галіне Леанідаўне з прычыны вялікага гора — заўчаснай смерці БРАТА Аляксандра.

Заснавальнікі: ЦК СМБ, калектыў рэдакцыі газеты "Чырвоная змена".
Выдавец: газетна-выдавецкае закрытае акцыянернае таварыства "Маладняк", 220013 г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а.
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220013, г.Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
Выходзіць у аўторак, чацвер і суботу.

*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*

Час падпісання ў друк:
па графіку – 19.20, падпісана – 19.20.

М. 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П. 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Індэкс 63129. Тыраж 65 500. Зак. 22.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220013 г.МІНСК, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная – 68-26-27; намеснікі галоўнага рэдактара – 32-12-82, 68-29-45; сакратарыят – 68-29-28; аддзел палітыкі – 68-25-55; аддзел эканомікі і сацыяльных праблем – 68-28-52; аддзел культуры і гістарычнай спадчыны – 68-29-56; аддзел маральна-этычнага выхавання – 68-25-93; аддзел пісьмаў і вывучэння грамадскай думкі – 68-28-32; аддзел інфармацыі – 68-27-21; аглядальнікі – 68-29-26; аддзел ілюстрацыі – 68-27-74, 68-25-41; ул. кар. па Брэсцкай вобл. – (01622) 5-57-57, ул. кар. па Віцебскай вобл. – (02132) 2-36-37.;
РЭКЛАМНАЯ СЛУЖБА – тэл.68-29-56, 68-29-45. Факс: 32-21-03.
Расцэнкі на рэкламу ў лютым: I паласа —5000 руб./ кв.см, IV паласа — 4000 руб./кв.см.



*Галоўны рэдактар*
*Уладзімір БЕЛЬСКІ*